# Крадуць. Пакуль без забойстваў

*АШМЯНЫ. Колькасць зарэгістраваных тут злачынстваў скарацілася. Летась за першыя чатыры месяцы іх было 119. Сёлета— 90. З іх 19 крадзяжоў дзяржаўнай маёмасці (у мінулым годзе— 55), асабістай маёмасці— 31 (25).*

## Справа "электрыкаў"

Можна адкрываць тэатр драмы і камедыі— артыстаў дастаткова. Грамадзяне Аніхоўскі і Зянкевіч вырашылі сыграць ролі работнікаў энерганагляду. Хадзілі па хатах, правяраючы электраправодку, спраўнасць электрычных лічыльнікаў. І... штрафавалі. У Стэфаніі Слепіцы знайшлі парушэнні на 500 тысяч рублёў. Спалоханая жанчына адкупілася 20 тысячамі, "дзякуй" сказала і яшчэ радавалася, нібы дзіця. Жыхарка Абрамовіч дала 19 тысяч, абы толькі адчапіліся. Некаторыя разлічваліся гарэлкай. "Спецыялісты" не толькі ўключалі і выключалі святло— цягнулі, што пад рукі траплялася: літр смятаны, два кілаграмы масла.

Суд адправіў электрыкаў-самазванцаў на трохгадовыя "курсы павышэння кваліфікацыі".

*Значна знізілася колькасць цяжкіх, гвалтаўнічых злачынстваў. Зарэгістравана 6 выпадкаў падробкі дакументаў супраць аднаго ў мінулым годзе.*

## Бізнес на каровах

*Летась паморак знішчыў 215 галоў буйной рагатай жывёлы.*

Пракуратура праверыла факты, выявіла многа парушэнняў. І не толькі. Ветурач калгаса імя Н. Крупскай Акулевіч здаў на мясакамбінат шэсць калгасных кароў. Адну з іх, вагой 530 кг, аформіў на сябе. Атрымаў звыш чатырох мільёнаў і тры гады "хіміі". Яшчэ адна падобная крымінальная справа знаходзіцца ў судзе. Дзеючая асоба— галоўны ветурач гаспадаркі. Пасада вышэй, большая сума і, магчыма, будзе большы тэрмін.

*За чатыры месяцы пераступілі закон 9 раней асуджаных і 9 у нецвярозым стане. У мінулым годзе лічбы такія— 22 і 26.*

## Няўдалыя рэкеціры

*Ехалі хлопцы з Мінска на шыкоўнай машыне "Форд-Сіера". На пасту ДАІ іх спынілі— прыгранічная зона.*

Адкрылі багажнік, а там абрэз. "Дзе ў вас тут можна пад'есці"?— спыталіся перапалоханыя візіцёры.

У турэмным буфеце студэнт, рабочы, беспрацоўны і прыватны прадпрымальнік расказалі, што ехалі падзарабіць: на шашы Мінск-Вільнюс "патрэсці" вадзіцеляў іншамарак і "дальнабойшчыкаў". У аднаго з няўдачлівых рэкеціраў дома знайшлі гранату Ф-1 і патроны.

## Сямейны падрад

*У "Гаспадарчых таварах" мужык з жонкай купілі халадзільнік "Мінск" па безнаяўнаму разліку.*

Работнікі магазіна павіншавалі з пакупкай, а потым спахапіліся— дакументы падробленыя. "Маладыя" і іх памагатыя яшчэ ў чатырох раёнах набылі буйнагабарытныя, дарагія рэчы. Ідзе пошук пакупнікоў.

*Васіль САВІЦКІ*

# 7-16-02? Мяне згвалцілі!...

*МАЛАДЗЕЧНА. Сацыяльна-псіхалагічны цэнтр першым у рэспубліцы распачаў сваю дзейнасць з "Тэлефона даверу".*

Гэта было тры гады таму. Планавалася аказваць дапамогу падлеткам. Сёння па нумары 71602 тэлефануюць і падлеткі, і пенсіянеры.

Здаецца, ідэальная сям'я. Здрадзіў муж. Што рабіць? Але псіхолаг параду не дае. Разам прапрацоўваюцца розныя варыянты. Выбірай— тваё жаданне. За мінулы год "тэлефон" збярог пяць сем'яў. Афіцыйна. Але статыстыку па ананімных званках весці немагчыма. Да лічбы, безумоўна, трэба дапісаць пару нулёў.

Летась 25 званкоў ад тых, каго згвалцілі. Ёсць сексуальныя злоўжыванні ў адносінах да дзяцей. Айчым згвалціў шасцігадовую прыёмную дачку. Званіла маці. У другой сям'і айчым прымусіў з сабою жыць пятнаццацігадовую.

Трыццацітрохгадовая хацела скончыць жыццё самагубствам. Муж заразіў сіфілісам яе і дачку.

Тэлефануюць "блакітныя"— мужчыны, якім патрэбна падтрымка, а не папрок.

Званіў кліент, які пры размове з псіхолагам-жанчынай сексуальна разраджаўся. Спецыяліст не кінуў трубку. Чалавеку стала добра. На вуліцу ён ужо не пойдзе і не будзе гвалціць.

14-гадовая: Я цяжарная, што рабіць?

12-гадовы: Мае бацькі мяне не разумеюць.

40-гадовы: Пад пагрозай трэці шлюб. Дапамажыце.

Пытанні— адказы.

На лініі Смаргонь, Вілейка, Валожын. Дапамагаюць усім.

*Васіль САВІЦКІ.*





## Нам засталася "Спадчына"

*МАЛАДЗЕЧНА. "РГ" паведамляла аб спецвыпуску для дзевяцікласнікаў "Беларусь ад сівой мінуўшчыны да сённяшніх дзён".*

Зборнік аказаўся карысным і для вучняў іншых (не выпускных) класаў. Жадаючыя могуць набыць гэты дапаможнік па гісторыі Беларусі ў кнігарні "Спадчына". Засталіся апошнія экземпляры.

*Аддзел інфармацыі.*

## "Паланез" музвучылішча

МАЛАДЗЕЧНА. Сёння расчыніў свае дзверы для наведвальнікаў салон-магазін "Паланез".

У ім прадстаўлена прадукцыя (ці творы?) навучэнцаў аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: вырабы з натуральнага дрэва, саломкі і г. д. Не засталіся ў баку і народныя майстры з Маладзечаншчыны.

Дарэчы, здольных юнакоў і дзяўчат вучылішча запрашае на спецыяльнасць "Разьба па дрэву і дрэваапрацоўка". Да 5 ліпеня вы яшчэ паспееце здаць дакументы, неабходныя для допуску да экзаменаў. Тэлефануйце: 54463, 52867.

*Аддзел інфармацыі.*

## Такое жыццё

# На мяжы вымірання

*АСТРАВЕЦ. Так пабудавана жыццё, што нараджэнне і смерць чалавека крочаць разам. І калі з'яўленне немаўляці бацькі і родныя чакаюць з нецярплівасцю, загадзя рыхтуюцца, набываюць пялёнкі-распашонкі, то смерць прыходзіць нечакана і неспадзявана. Здавалася б, іншы раз толькі ўчора бачыў чалавека, які ўсміхаўся, радаваўся жыццю, а сёння ён адышоў "у свет іншы". Але, на жаль, ніхто не ў стане штосьці змяніць.*

Яшчэ больш насцярожвае становішча з гэтымі фактамі ў Астравецкім раёне. Толькі за першыя тры месяцы гэтага года ў раёне нарадзілася 84 дзіцяці, а за гэткі ж тэрмін памерла, загінула ў аварыях і г. д. 147 чалавек.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Сіроты пры жывых бацьках

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Летась 18 дзяцей засталіся без бацькоў. Толькі ў чатырох бацька і маці памерлі, у астатніх пазбаўлены сваіх правоў.*

Праблема сацыяльнага сіроцтва становіцца ў нашых гарадах і вёсках усё больш вострай. Інтэрнаты, дзіцячыя дамы перапоўнены. У Радашковіцкай школе-інтэрнаце, напрыклад, ёсць месцы толькі для першакласнікаў.

Вялікага жадання ўсынавіць чужых дзяцей у апошнія гады ў нашым грамадстве не назіраецца. Па словах інспектара па апецы раённага аддзела адукацыі М. Сяргея, летась толькі дзве бяздзетныя сям'і ўзялі на выхаванне дзяцей.

63 дзіцяці з раёна жывуць у апякунскіх сем'ях. Толькі 17 з іх круглыя сіроты. Дзяржава дапамагае сем'ям, якія маюць статус апякунскіх. На дзіця школьнага ўзросту выдзяляецца штомесяц 900 тысяч рублёў у першы год апекі, 800 у наступныя, пакуль яно не працаўладкуецца.

Па пытаннях апекі, усынаўлення ўзнікаюць іншы раз вельмі складаныя пытанні, звязаныя з распадам СССР. Быў такі выпадак у пасёлку Чысць. Муж забіў жонку, быў асуджаны, пазбаўлены бацькоўскіх правоў на сына. Бабуля, якая жыве ў Казахстане, адразу пасля пахавання яго маці, забрала хлопчыка да сябе. Органы апекі аб гэтым нават не ведалі. І толькі праз два гады пры праверцы пракуратура высветліла, што грамадзяніна Рэспублікі Беларусь незаконна вывезлі ў Казахстан. Бабуля павінна была афармляць дакументы праз дыпламатычныя прадстаўніцтвы дзвюх дзяржаў.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Фестывалі

# Запрашае "Пеўчае поле"

*МЯДЗЕЛ. Міністэрства культуры, упраўленне культуры Мінаблвыканкома і раённы выканком яшчэ ў сакавіку рашылі правесці на Нарачы рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле". Пройдзе ён з 5-га па 7-е ліпеня.*

Падрыхтоўка да яго ідзе поўным ходам. Старшыня аргкамітэта начальнік ўпраўлення ўстаноў культуры Міністэрства культуры Тадэвуш Стружыцкі сказаў, што вызначыўся з размяшчэннем удзельнікаў фестывалю, іх харчаваннем, канцэртнымі пляцоўкамі.

Творчага люду напачатку ліпеня на Нарач прыедзе нямала. Сюды з'едуцца самыя лепшыя харавыя калектывы нашай краіны, госці з Польшчы і Расіі. Нават па сціплых прыкідках гэта не менш чатырохсот чалавек. Плюс да гэтага аргкамітэт, журы фестывалю, прадстаўнікі прэсы, запрошаныя...

Канешне, самым аўтарытэтным будзе там Дзяржаўны акадэмічны хор імя Генадзя Цітовіча. Яго кіраўнік прафесар Міхаіл Дрынеўскі падзяліўся:

—Калі атрымаецца, мы хацелі б пасля фестывалю затрымацца ў раёне на некалькі дзён, выступіць перад жыхарамі бліжэйшых населеных пунктаў. Няхай людзі не толькі з цікавасцю правядуць час, але далучаюцца да нацыянальнай. І яшчэ,— дадаў М. П. Дрынеўскі,— Наш хор выступаў у касцёлах Італіі, Германіі, калі быў у гэтых краінах на гастролях. Думаю, на гэты раз зможам выступіць у касцёлах Мядзельшчыны. Напрыклад, у вёсцы Нарач. Не ведаю, як атрымаецца, але задумка такая ёсць.

У дзень заезду, 5 ліпеня кожны калектыў прад'явіць сваю "візітную картку" на плошчы Шаранговіча ў райцэнтры. А вечарам яны збяруцца на "Купалле" на беразе возера ў курортным пасёлку Нарач непадалёк ад аднайменнага санаторыя.

Самым, бадай, напружаным, акажацца 6 ліпеня. Гадзін з 11 раніцы у Нарачанскім сельскім Доме культуры пачнецца конкурс калектываў харавога мастацтва. Хто стане пераможцам— вызначыць журы, якое ўзначаліць Міхаіл Дрынеўскі. Лепшым прысвояць званні лаўрэатаў і дыпламантаў і ўручаць памятныя прызы, каштоўныя падарункі, спецыяльныя дыпломы. Міністэрства культуры для іх фінансавай падтрымкі вызначае тры грашовыя гранты. Пасля конкурсу харавыя калектывы раз'едуцца па гаспадарках раёна.Выступяць перад вяскоўцамі і жыхарамі пасёлкаў. А 7-га ўсе сустрэнуцца ля помніка Славы на беразе сінявокай Нарачы. Тут прадстаўнікі раёна па добрай традыцыі адзначаць 52-ю гадавіну вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Далёка наўкол разнясуцца словы "Песні аб Нарачы" у выкананні зводнага хору.

—Канешне,— заўважыў загадчык аддзела культуры Мядзельскага райвыканкома Анатоль Шаранговіч,— мы нічога не будзем мець супраць, калі хтосьці з прадпрымальнікаў, бізнесменаў пажадае ўстанавіць з намі дзелавыя кантакты, аказаць падтрымку ў фінансаванні фестывалю.

—А мы,— дадала дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, мастацкі кіраўнік фестывалю Стэла Іванова,— пастараемся так усё арганізаваць, каб як мага больш людзей спявала, танцавала, весялілася, тады і свята сапраўднае атрымаецца.

*Васіль КЛЁНАЎ.*

## "Маладзечна-96"

*МАЛАДЗЕЧНА. А мясцовы фестываль адкрыўся, як вядома, у мінулую суботу ў сталіцы.*

Сёння маладзечанцы прымаюць яго ў сваім горадзе.

## Летам пажадана не хварэць

*ВАЛОЖЫНСКІ Р-Н. Адсутнасць грашовых сродкаў, усё ўзрастаючыя даўгі прымусілі адміністрацыю раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання пайсці на непапулярныя меры і аб'явіць аб закрыцці ў чэрвені-ліпені Пяршайскай участковай бальніцы. Іх калегі з Вішнеўскай пойдуць у масавым парадку ў чарговыя і без утрымання водпускі ў жніўні-верасні. А далей— будзе відаць.*

Калі ў Валожынскім раёне такое практыкуецца ўпершыню, то ў вобласці падобнае выпрабаванне рынкам бальніцы праходзяць гады са тры. Безумоўна, без медыцынскай дапамогі вяскоўцы не застануцца, аднак адзіным выратаваннем для іх стане раённая бальніца, куды паспрабуй яшчэ дабрацца.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Лячэнне з аздараўленнем

*АСТРАВЕЦ. Першыя групы дзяцей накіраваліся да сваіх месцаў адпачынку. Большасць школьнікаў Астравеччыны правядзе не адзін дзень у летніку "Ластаўка" на беразе Лошы, некаторыя паедуць дапамагчы на вёсцы бабулям і дзядулям. А вось 34 хлопчыкі і дзяўчынкі, перасяленцы з Чарнобыльскай зоны, днямі накіраваліся ў Гродзенскі санаторый-прафілакторый "Азот".*

—Паездка такога роду не першая. Летась там праходзілі курсы лячэння і аздараўлення амаль 50 чалавек,— зазначыла дырэктар дзіцяча-юнацкага цэнтра Тэрэза Драган.— Сёлета разам з дзецьмі мы адправілі і траіх выхавацеляў. Усе расходы, звязаныя з 24-дзённым адпачынкам, узяло на сябе гродзенскае аддзяленне фонда "Здароўе". У гэтым санаторыі кожнаму з перасяленцаў будзе назначаны неабходны курс аздараўлення, у залежнасці ад захворвання. Акрамя гэтага будуць арганізоўвацца розныя мерапрыемствы.

Падобныя групы плануюць яшчэ адправіць у Слонім і Залессе. За лета дзятва зможа не толькі папраўіць здароўе, але і адпачыць, каб восенню з новымі сіламі сесці за парту.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

